# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 2 (85) Люты 2014 г.

## Віцебскія актывісты КХП БНФ – за байкот мясцовых выбараў




Актывісты Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ **Ян Дзяржаўцаў**, **Алег Емяльянаў** і **Пётра Сарапеня** падалі ў адміністрацыю Кастрычніцкага раёну Віцебску заяўку на правядзеньне 5 сакавіка пікету. Мэта меркаванай акцыі, як пазначана ў заяўцы, — *«агітацыя выбаршчыкаў за актыўны байкот выбараў, якія арганізаваныя нелегітымным прарасейскім палітычным рэжымам».*

Пікет за байкот мусіць адбыцца ў месцы, адмыслова адведзеным гарадзкімі ўладамі Віцебску пад масавыя акцыі. Аднак шанцы, што ўлады дазволяць мерапрыемства, — мінімальныя. Бо ў горадзе дзейнічае рашэньне гарвыканкаму №881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску», якое патрабуе ад арганізатараў вулічных акцыяў перад падачай заявак на іх правядзеньне заключыць дамовы на абслугоўваньне гэтых акцыяў мэдыкамі, міліцыянтамі і камунальнікамі.

Пакуль яшчэ не было ніводнага выпадку, каб камусьці з апазыцыянэраў удалося выканаць умовы рашэньня №881, — згаданыя ў рашэньні службы ўсяляк ухіляюцца ад заключэньня неабходных дамоваў. Улічваючы гэта, заяўнікі пікету за байкот просяць улады пры разглядзе іх заяўкі прытрымлівацца непасрэдна закону «Аб масавых мерапрыемствах», не зважаючы на рашэньне №881, якое, як яны пішуць у заяўцы, *«не адпавядае Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, пазбаўляе магчымасьцяў рэалізаваць грамадзянам краіны права на свабоду публічнага выказваньня сваіх думак і права на свабоду мірных сходаў».*

## Віцебскі абласны суд не задаволіў скаргу актывіста кампаніі «Гавары праўду»

**Адзін зь лідэраў грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Вазьняк абскардзіў у Віцебскім абласным судзе адмову ў рэгістрацыі сваіх ініцыятыўных груп. Суд падтрымаў ранейшыя адмовы раённай і абласной выбарчых камісіяў. Актывіст зьбіраўся балятавацца ў Талачынскі раённы і Коханаўскі сельскі саветы праз збор подпісаў.**

Талачынская раённая выбарчая камісія ініцыятыўныя групы не зарэгістравала, спаслаўшыся на 6-ю частку артыкулу 60 Выбарчага кодэксу. Сяргею Вазьняку было заяўлена, што ён не жыве і не працуе на тэрыторыі саветаў, у якія зьбіраецца балятавацца. Спадар Вазьняк з такімі аргумэнтамі не пагадзіўся: спрабаваў давесьці, што ён галоўны рэдактар рэспубліканскай газэты «Товарищ», якая распаўсюджваецца на тэрыторыі ўсёй Беларусі, адпаведна, і ў Талачынскім раёне.



У Талачынскай раённай выбарчай камісіі сказалі, што тэрыторыя распаўсюду газэты ня можа разглядацца як месца працы. Віцебская абласная выбарчая камісія таксама ня стала на бок актывіста: скаргу на тое, што раённая камісія беспадстаўна адмовіла ў рэгістрацыі ініцыятыўных груп, палічылі неабгрунтаванай.

Віцебскі абласны суд ня толькі падтрымаў ранейшыя падставы для адмовы ў рэгістрацыі, але далучыў шэраг новых, распавёў старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Партыі левых «Справядлівы сьвет» Мікалай Селівашка, адзіны прадстаўнік дэмакратычных сіл у абласной выбарчай камісіі:

«У якасьці падстаў для адмовы ў рэгістрацыі было сказана, што газэту „Товарищ" не распаўсюджвае мясцовая пошта, і што яе няма ў падпісным каталёгу. Тлумачэньні пра тое, што гэта не віна рэдактара, а адмова ад супрацоўніцтва з боку «Белпошты», прынятыя не былі. Не дапамагло і тое, што на суд прыехалі жыхары Талачыншчыны, наш аднапартыец з Коханава Мікалай Петрушэнка ды іншыя чытачы газэты. Яны засьведчылі, што газэта распаўсюджваецца на гэтай тэрыторыі і ўздымае мясцовыя праблемы. Аднак і пракурор, і судзьдзя вырашылі, што сьведкі — зацікаўленыя асобы, і таму іх тлумачэньні нельга лічыць аб'ектыўнымі».

Прысутныя на судзе актывісты і сам Сяргей Вазьняк, разумеючы, што станоўчага рашэньня ня будзе, пакінулі суд яшчэ да яго абвяшчэньня.

# Перанос месца прыпынку грамадзкага транспарту ля «Пірамідьі» — рэакцыя ўладаў на пікет апазыцыі?

Віцебскія ўлады, якія ня першы год рупяцца пра тое, каб усяляк абмежаваць магчымасьці правядзеньня якіх-кольвек масавых акцыяў праціўнікамі дзеючага палітычнага рэжыму, здаецца, памыліліся, калі вызначалі месцы, забароненыя для пікетаў з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў дэпутатаў. Акцыя апазыцыі ўсё-такі адбылася — пікет у самым цэнтры гораду! І пасьля гэтага, здаецца, чыноўнікі зрабілі аргвысновы...




**Згодна з адпаведным рашэньнем Віцебскага гарвыканкаму, збор подпісаў быў забаронены амаль усюды ў цэнтры Віцебску, бо амаль усюды ў цэнтры менш за 50-100 мэтраў да аб'ектаў, якім гарвыканкам надаў асаблівы статус: ля іх нельга ладзіць перадвыбарныя акцыі. Сярод такіх аб'ектаў аўта- і чыгуначны вакзалы, паліклінікі і шпіталі, пракуратуры, суды, будынкі абл-, гар- і райвыканкамаў, музэй, ЗАГС, міліцыя, КДБ і чамусьці... «магазін №87 адкрытага акцыянэрнага таварыства "Веста" (вул. Леніна, 28)». Таксама было забаронена ладзіць збор подпісаў на прыпынках грамадзкага транспарту.**

Але прыхільнікі апазыцыі ўсё ж знайшлі «астравок бясьпекі», які знаходзіцца хаця і ў цэнтры гораду, але больш як за 50 мэтраў ад усіх пералічаных у рашэньні гарвыканкаму аб'ектаў. Супольны пікет актывістаў кампаніі «Гавары праўду» і аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» па зборы подпісаў, які адбыўся 8 лютага ля гандлёвага цэнтру «Марка-сіці», стаў, бадай, першай за апошнія некалькі гадоў легальнай вулічнай акцыяй апазыцыі, праведзенай у цэнтры Віцебску. І прадстаўнікі гарвыканкаму, якія праз некаторы час пасьля пачатку імпрэзы прыбылі на месца падзеі — нягледзячы на тое, што быў выходны дзень, — нічога з гэтым не змаглі зрабіць.

Хаця перашкодзіць правядзеньню мерапрыемства яны ўсё ж паспрабавалі. Спачатку сталі высьвятляць, ці маюць тыя, хто зьбірае подпісы, з сабою пашпарты. І калі ў некаторых пашпартоў не аказалася, абвясцілі, што калі так — то і зьбіраць подпісы тыя ня маюць права. Потым увагу чыноўніц Віцебскага гарвыканкаму прыцягнуў стэнд «Гавары праўду» з інфармацыяй пра кампанію «Народны рэфэрэндум».

Намесьніца начальніка аддзелу ідэалёгіі Віцебскага гарвыканкаму Ірына Пучкова заявіла, што арганізатары акцыі нібыта парушаюць закон «Аб масавых мерапрыемствах», бо інфармацыя на стэндзе — гэта, маўляў, агітацыя, а час агітацыі ў выбарчай кампаніі яшчэ не надышоў. Каб пазьбегнуць нэгатыўных наступстваў для ўдзельнікаў імпрэзы, стэнд было рэкамэндавана прыбраць...

Дарэчы, на збор подпісаў кабеты з гарвыканкаму прыйшлі не адны, а ў суправаджэньні «сьвіты» — нейкіх маладых людзей спартовага выгляду (каб самім сябе адчуваць больш упэўнена, або дзеля застрашваньня ўдзельнікаў імпрэзы і ахвотных ставіць подпісы?) ды чалавека ў цывільным з камэрай, які здымаў усё, што адбываецца, на відэа (на ўсялякі выпадак?).

**Тым ня менш збор подпісаў адбыўся. Ніхто затрыманы ня быў. А ў хуткім часе месьцічы заўважылі: прыпынак аўтобусаў і тралейбусаў «Плошча Свабоды» перанесьлі на сотню мэтраў бліжэй да «Марка-сіці». Такім чынам, цяпер месца «зачышчанае»: калі б пікет па зборы подпісаў, зладжаны «Гавары праўду» і БХД тыдзень таму, адбыўся сёньня, пікетоўцаў можна было б абвінаваціць у тым, што яны робяць акцыю ў неналежным месцы – «на прыпыначным пункце грамадзкага транспарту».**

Зрэшты, збор подпісаў за вылучэньне кандыдатаў ужо завершаны. Але ж наперадзе пэрыяд агітацыі. Дый неўзабаве і прэзыдэнцкія выбары: там, найхутчэй, таксама будуць зьбіраць подпісы — за вылучэньне ўжо не ў мясцовыя саветы, а за альтэрнатыўных кандыдатаў на пасаду кіраўніка краіны...

# Выбары ў Віцебску: апазыцыянэры па-за гульнёй

19 лютага Віцебская тэрытарыяльная выбарчая камісія разгледзела 83 заявы прэтэндэнтаў на мандат кандыдата ў дэпутаты Віцебскага гарадзкога Савету дэпутатаў. Для дванаццаці прадстаўнікоў ад апазыцыйных палітычных структур і незалежных мясцовых палітыкаў вынікі іх вылучэньня аказаліся адмоўнымі.

Так, зь перадвыбарчай гонкі выбылі аксакалы мясцовай палітыкі: сябра аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" **Аляксей Гаўруцікаў** і сябра партыі БНФ **Хрыстафор Жаляпаў**. Таксама за бортам выбарчага працэсу апынуліся кіраўнік абласной арганізацыі БХД **Таццяна Севярынец**, абласны лідэр гаварыпраўдаўцаў **Лідзія Сагідуліна** ды грамадзкі актывіст **Аляксандар Мікулін**. Усе яны вылучаліся праз збор подпісаў, і выбарчая камісія выявіла ў падпісных аркушах гэтых апазыцыянэраў несапраўдныя подпісы выбаршчыкаў.



Праваабаронцу **Паўлу Левінаву** не хапіла толькі аднаго подпісу, каб стаць кандыдатам у дэпутаты. Апроч таго, ня ўсё чыста, на думку гарадзкой выбарчай камісіі, у Левінава было з пададзенымі асабістымі зьвесткамі. Тут дрэнную службу Паўлу Ісаакавічу саслужыла тое, што ў зьвестках пра сябе ён згадаў прадстаўніцтва праваабарончай арганізацыі "Беларускі Хэльсынскі камітэт" па Віцебскай вобласьці. Паводле ж дадзеных выбарчай камісіі, атрыманых зь дзяржаўных органаў, — прадстаўніцтва БХК на Віцебшчыне не існуе.



Астатнім шасьці грамадзянскім і партыйным актывістам таксама было адмоўлена ў рэгістрацыі ў якасьці кандыдатаў у дэпутаты альбо з-за няправільна сабраных подпісаў, альбо з прычыны недакладных асабістых дадзеных або зьвестак у пададзеных дэкларацыях аб даходах.

Без праблем былі зарэгістраваныя кандыдатамі прадстаўнікі партыі "Справядлівы сьвет". Гэта, мабыць, зьвязана з тым, што яны вылучаліся не праз збор подпісаў, а па рашэньні партыйнага зьезду.

У партыі Гайдукевічаў, "Лібэральна-дэмакратычнай партыі Беларусі", таксама ня ўзьнікла праблем з рэгістрацыяй сваіх кандыдатаў, бо ніводзін прадстаўнік партыі ня стаў балятавацца ў гарадзкі Савет дэпутатаў.



# На Віцебшчыне сярод зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты трое грамадзян Расеі

**Усяго ў Віцебскай вобласьці на 3218 дэпутацкіх мандатаў у абласны, раённыя, гарадзкія, пасялковыя і сельскія саветы прэтэндуюць 3453 кандыдатаў. У іх ліку 4,7% складаюць грамадзяне да 30 гадоў (161), дэпутаты дзеючага скліканьня – 51,8% (1778), жанчын – 47% (1622) і 3 грамадзяніна Расеі.**

На 60 дэпутацкіх месцаў у Віцебскі абласны савет прэтэндуюць 125 кандыдатаў. Конкурс на дэпутацкі мандат склаў 2,1. Конкурс на месца ў 21 раённы савет склаў 1,1 кандыдата на месца, у гарадзкія саветы гарадоў абласнога падпарадкаваньня (Віцебск, Наваполацак) — 1,8; раённага падпарадкаваньня — 1,4; сельскія саветы — 1,0; пасялковыя саветы — 1,1.

Ад палітычных партыяў зарэгістравана 110 кандыдатаў у дэпутаты саветаў усіх узроўняў. Пры гэтым найбольшая колькасьць вылучэнцаў зарэгістравана ад Беларускай партыі левых "Справядлівы сьвет", Лібэральна-дэмакратычнай партыі, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Камуністычнай партыі Беларусі.

Адмову ў рэгістрацыі атрымалі 59 вылучэнцаў. Асноўнымі прычынамі сталі недакладнасьці подпісаў выбаршчыкаў і недакладныя зьвесткі ў дэклярацыях аб даходах.

# Актывіст пабыў кандыдатам у дэпутаты толькі 4 гадзіны



20 лютага ў 11 гадзін раённая выбарчая камісія ўручыла актывісту кампаніі "Гавары праўду" **Яраславу Берніковічу** пасьведчаньне кандыдата ў дэпутаты Глыбоцкага райсавету. А а 15-й гадзіне з камісіі патэлефанавалі з папярэджаньнем, што ягоную рэгістрацыю анулююць.

Кажа Яраслаў Берніковіч: *"Прычына для мяне стала сюрпрызам: аказваецца, подпісы за маё вылучэньне былі сабраныя ня ў той вёсцы. У Глыбоцкім раёне, сказалі ў камісіі, ёсьць дзьве вёскі з аднолькавай назвай Гірстуны. Адна — у Карабоўскім сельсавеце, за пару кілямэтраў ад Высокага, дзе я жыву. Вёска Высокае — гэта таксама тая акруга, дзе я зьбіраўся балятавацца, і навакольныя вёскі туды ўваходзяць. Але ў камісіі кажуць, што гэта — ня тыя Гірстуны, і што подпісы я мусіў зьбіраць у Гірстунах Удзелаўскага сельсавету. Я нават ня ведаў, што там ёсьць такая вёска, бо яна даўно не існуе, там няма насельнікаў!"*

Актывіст дэманструе раённую газэту "Веснік Глыбоччыны" са сьпісам акругаў і населенымі пунктамі, якія ў іх уваходзяць. У Вярхнянскай акрузе №22 ёсьць вёска Гірстуны, але без удакладненьня, да каторага сельсавету яна адносіцца.

*"Гэта недарацоўка тых, хто рыхтуе выбары, хто дзеліць акругі. Калі ёсьць дзьве вёскі з аднолькавай назвай, трэба ж пазначаць канкрэтна, якая маецца на ўвазе! У той вёсцы, пра якую гаворыць камісія, людзей няма. Нават сама вёска ёсьць не на кожнай мапе. А там, дзе зьбіраліся подпісы, вёска жылая, мяне ведаюць. Аднак у выніку — 19 подпісаў прызнана несапраўднымі. Я падаваў у камісію 92 подпісы замест 75, каб быў запас. Але цяпер высьвятляецца, што мне ўжо двух подпісаў не хапае. Вось і падстава, каб не зарэгістраваць!"*, - абураецца актывіст.

Дарэчы, Яраслаў Берніковіч зьбіраўся балятавацца і ў раённы і ў Віцебскі абласны саветы. Аднак і ў рэгістрацыі на кандыдата абласавету яму было адмоўлена: на адным з падпісных аркушаў не было напісана слова "Глыбокае", і ўвесь аркуш "забракавалі", прызнаўшы ўсе подпісы на ім несапраўднымі.

# Жыхары Віцебску: Сябры выбарчых камісіяў нас ашукалі

**Жыхары Віцебску, што падпісаліся за вылучэньне кандыдатамі ў дэпутаты актывістаў "Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі" Тацьцяны Севярынец і Алены Шабуні, пацьвярджаюць сапраўднасьць сваіх подпісаў, якія ў выбарчай камісіі прызналі нібыта несапраўднымі, і кажуць, што прадстаўнікі выбарчых камісіяў іх ашукалі.**

"Людзі былі вельмі абураныя тым, што іх падманулі. Яны такога не чакалі. Мы падаем скаргі з прыкладаньнем сьведчаньняў у пракуратуру і ЦВК", - адзначыла Тацьцяна Севярынец.




***Вось што кажуць выбаршчыкі, якія падпісаліся ў падтрымку Тацьцяны Севярынец:***

"Падчас праверкі гарадзкой камісіяй сапраўднасьці даты і подпісу я не зусім зразумеў зьместу праверкі".

"Падчас праверкі камісіі мяне дома не было, у дакумэнце камісіі подпіс я ня ставіла".

"Пры праверцы гарадзкой камісіяй я дома адсутнічала, у іх дакумэнце за мяне расьпісаўся муж. Іх дакумэнту я ня бачыла і ня ведаю яго зьместу".

"Падчас прыходу праверкі з гарадзкой камісіі я не зразумеў пастаноўкі пытаньня".

***А вось, пра што заяўляюць падпісанты ў падтрымку Алены Шабуні:***

"Падчас праверкі я, шчыра кажучы, ня памятаў і не зразумеў, пра што ідзе гаворка. Мае словы пацьвярджаюць бацькі".

"Падчас праверкі гарадзкой камісіяй сапраўднасьці майго подпісу і даты я дома адсутнічаў. Размаўляў зь сябрам камісіі па тэлефоне і ў іх дакумэнтах подпіс не ставіў. За мяне расьпісалася мама. Па тэлефоне я сказаў, што і дату, і подпіс за Шабуню А.А. я ставіў сам".

"Падчас праверкі гарадзкой камісіі я пацьвердзіў гэты факт (што ўласнаручна ставіў подпіс і дату за Шабуню А.А. - рэд.) і падпісаўся, не чытаючы іх тэкст дакумэнту. Пра што глыбока шкадую, бо ня думаў, што сябры гарадзкой камісіі ўвядуць мяне ў зман".

"Падчас праверкі гарадзкой камісіяй я адсутнічаў дома. З майго дазволу па тэлефоне подпіс у дакумэнце ставіў мой сын. Тэксту дакумэнту я ня бачыў, але думаў, што пацьвярджаю сваю дату і подпіс".

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://vitebskspring.org і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.